І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Жнівень 2018

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## У Гомелі сярод жылых дамоў вырасла вялізная смеццевая звалка



стар. 4

**Блогера ў майцы з чыноўнікамі аштрафавалі на 735 рублёў за сюжэт на «Белсаце», у якім ён быў героем**

стар. 5

**У Гомлі будуюць грамадскі туалет за $ 750 тыс. Залатых унітазаў там не будзе**

стар. 6

**Гомельскі суд аштрафаваў абаронцу Курапатаў за «непадпарадкаваньне міліцыі»**

стар. 3

# У Гомельскай вобласці пракурор забыў на пасяджэнні суда паперу, у якой было гатовае рашэнне па справе

***Цікавую гісторыю апавёў грамадскі актывіст з райцэнтра Акцябрскі Гомельскай вобласці Андрэй Павук. Не так даўно ён напісаў скаргу ў суд на дзеянні Акцябрскага райвыканкама, які не пускае Павука на адкрытыя пасяджанні.***

На 14 жніўня быў прызначаны разгляд гэтай скаргі. Інтарэсы Павука ў судзе збіраўся прадстаўляць гомельскі праваабаронца Леанід Судаленка. Суддзя ўзяў 15-хвілінны перапынак, каб прыняць рашэнне, ці можа Судаленка браць удзел у працэсе.

У гэты час адзін з прысутных у зале пабачыў і сфатаграфаваў паперку, якую забыўся памочнік пракурора Вадзім Шыбут. На гэтай паперцы ўжо было прынятае судом рашэнне, хаця сам працэс нібыта ўсё яшчэ працягваўся.

Андрэй Павук хутка выклаў гэты дакумент у інтэрнэт. Ён мяркуе, што і памочнік пракурора, і



суддзя ўбачылі гэта. Таму было прынятае рашэнне перанесці агучванне рашэння на наступны дзень. У тым дакуменце, што забыўся памочнік пракурора, у скарзе Андрэю Павуку адмаўлялі.

15 жніўня суддзя вырашыў не агучваць рашэнне, а… узяць самаадвод!

«У працэсе разгляду грамадзянскай справы суду стала вядома, што заяўнікам у інтэрнэце размешчаная інфармацыя аб наяўнасці ў пракурора, які браў удзел у разглядзе скаргі, дакумента, які заяўнікам быў расцэнены як рашэнне па справе, што выклікала абмеркаванне ў інтэрнэце. Паколькі дадзеная публікацыя можа выклікаць сумневы ў бесстароннасці, суддзя заяўляе адвод ад удзеле ў справе», — напісана ў пастанове.

Цяпер павінен быць прызначаны новы працэс па справе. Сам Андрэй Павук кажа, што невядома, хто будзе разглядаць працэс, бо ў Акцябрскім на гэты момант папросту адзін суддзя.

*ЗП, nn.by*

# Тром вучням Нараўлянскага ліцэя забаранілі самастойна карыстацца стыпендыяй, каб яны не трацілі яе на алкаголь

***Суд пазбавіў трох непаўналетніх права самастойна карыстацца стыпендыяй і іншымі даходамі, паведамляе Генпракуратура.***

У пракуратуру раёна паступіла зварот Нараўлянскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя. Падлеткі вучыліся на дзённым аддзяленні, у іх быў статус асоб, якія засталіся без апекі бацькоў, яны знаходзіліся на поўным дзяржзабеспячэнні. Атрымлівалі стыпендыю і іншыя выплаты, якія трацілі на спіртныя напоі.

Навучэнцы на занятках стваралі канфліктныя сітуацыі, дрэнна вучыліся, стаялі на ўліку ў лекара-нарколага.

Па выніках праверкі пракурор Нараўлянскага раёна падаў у суд адпаведныя заявы. У выніку траіх непаўналетніх прызналі абмежавана дзеяздольнымі, пазбавілі права самастойна распараджацца стыпендыяй і іншымі даходамі.



# Гомельскі суд аштрафаваў абаронцу Курапатаў за «непадпарадкаваньне міліцыі»

***2 жніўня суд Чыгуначнага раёну Гомлю разгледзеў адміністрацыйны пратакол, складзены міліцыяй у дачыненьні жыхара абласнога цэнтру Барыса Анікеева, які ўдзельнічаў у абароне Курапатаў.***

Судзьдзя Яўген Шаршнёў пакараў актывіста штрафам у памеры 8 базавых велічынь (196 рублёў) за непадпарадкаваньне міліцыі.

Паводле пратаколу, 14 ліпеня Барыс Анікееў знаходзіўся каля рэстарану «Поедем поедим», стаяў на праежджай частцы, на патрабаваньні супрацоўнікаў унутраных спраў сысьці з дарогі не рэагаваў. Гэта міліцыя расцаніла як непадпарадкаваньне (артыкул 23.4 Кодэксу аб адміністрацыйных праваПарушэньнях).

Анікееў віну не прызнаў. Ён патлумачыў, што сапраўды 14 ліпеня знаходзіўся каля месцаў масавых пахаваньняў у Курапатах.

«Там не рэстаран „Поедем поедим“, а кабак НКВД. Для мяне гэта месца, дзе пахаваныя нявінна забітыя людзі, і хто там захапіў зямлю пад рэстаран — я не ведаю. Там няма праежджай часткі — яна ня можа быць на магілах, а я стаяў на брукаванцы», — сказаў Анікееў на паседжаньні суду. Ён прызнаў, што сапраўды не прапускаў аўтамабіль Ford, бо хацеў, каб з кіроўцам разабралася міліцыя — транспартны сродак уехаў на тэрыторыю рэстарану праз зялёную зону.




Затым, па словах Анікеева, на людзей, якія несьлі варту каля рэстарана, напала ахова.

«Нас зьбівалі, а міліцыя аніяк не рэагавала — яны проста сьмяяліся. Чаму вінаватыя ў бойцы, у якой нам парвалі футболкі, жанчынам пабілі акуляры, не прыцягнутыя да адказнасьці?», — спытаўся ў судзьдзі актывіст.

Доказам яго вінаватасьці суд прадставіў відэазапіс, які прыклалі да справы супрацоўнікі міліцыі. На відэа зафіксаваны момант, калі міліцыя выказвае прэтэнзіі і складае пратакол на Дзяніса Убрановіча — іншага абаронцу Курапатаў.

Таксама як доказ праваПарушэньня ў справе былі паказаньні сьведак — уладальніка рэстарана «Поедем поедим» Леаніда Зайдэса і дырэктаркі Сьвятланы Дубцовай. Яны напісалі ў суд заявы, што ня могуць прысутнічаць на паседжаньні — уладальнік рэстарану «з-за занятасьці», дырэктарка — «бо знаходзіцца па-за межамі Беларусі».

Барыс Анікееў заявіў што абскардзіць судовую пастанову.

## У Лоеве, пакуль жанчына ляжала ў бальніцы, у яе забралі 3-месячнае дзіця

***Жыхарка Лоева Алеся Фаміных у пачатку жніўня трапіла ў шпіталь з апендыцытам. У гэты час улады забралі яе 3-месячнае дзіця, якое даглядала бабуля. Па словах Алесі, падставай для гэтага паслужылі няспраўная газавая пліта і адсутнасць вады ў прыватным доме.***

Маладая маці не знаходзіцца ў шлюбе з бацькам малога, які рэгулярнае выпівае. Да дэкрэтнага адпачынку Алена працавала прыбіральшчыцай у мясцовым райпо, атрымлівала 200 рублёў. Правесці ваду і адрамантаваць пліту на такую зарплату і пенсію бабулі цяжка.

Жанчына звярнулася да праваабаронцаў. Яны адзначаюць, што нягледзячы на цяжкае становішча сям'і, жанчына не злоўжывае спіртным, да нараджэння працавала, а цяпер ёй перасталі плаціць нават дэкрэтныя.

Чыноўнікі патрабуюць, каб яна неадкладна знайшла працу, а праваабаронцы лічаць, што рашэнне службы апекі абавязкова павінна прайсці судовую праверку.

*Сильные новости*

# У Гомелі сярод жылых дамоў вырасла вялізная смеццевая звалка

***У Гомелі прама ў цэнтры мікрараёна Раманавічы вырасла смеццевая звалка. Пры гэтым ліквідаваць яе шляхам вывазу смецця ў спецыяльна адведзенае для гэтага месца ніхто не збіраецца - у жніўні проста пачалося закапванне звалкі.***

Каардынаты звалкі:
Шырата: С52.44325
Даўгата: В31.12458

На сённяшні дзень пачалося яе ліквідацыя, але шкодным для навакольнага асяродзя чынам – бытавое і будаўнічае смецце закопваецца ў зямлю на месцы звалкі, а не вывозіцца ў спецыяльна прадугледжаныя для такіх мэтаў палігоны.

Ужо падрыхтаваная петыцыя за ліквідацыю звалкі ў належны выгляд, па выхадных у верасні, з 15:00 да 16:00 каля ЧЫГУНАЧНАГА пераезду (Раманавічы) будзе адбывацца збор подпісаў пад петыцыяй.




Петыцыя змяшчае зварот:

- Спыніць ліквідацыю звалкі метадам закопвання смецця на месцы звалкі;

- Выкапаць закапанае смецце і вывезці яго ў спецыяльна прадугледжаныя ля гэтых мэтаў палігоны;

- Паведаміць, ці законнай была ліквідацыя звалкі падобным чынам;

- Прыцягнуць да адказнасці асобаў, вінаватых у падобнай ліквідацыі звалкі метадам закопвання смецця ў зямлю на месцы звалкі



# Блогера ў майцы з чыноўнікамі аштрафавалі на 735 рублёў за сюжэт на «Белсаце», у якім ён быў героем

***Андрэй Павук, вядомы ютуб-каналам «Рудабельская паказуха», аштрафаваны судом Акцябрскага раёна на 735 рублёў. Нагодай для справы стаў відэасюжэт пад назвай «Блогеру пагражаюць судом за фота чыноўнікаў на майцы», які выйшаў на «Белсаце» 8 ліпеня.***

Гісторыя з гэтай майкай пачалася яшчэ ў чэрвені: у пачатку лета Андрэй Павук прыйшоў на выпускны ў майцы, якая змяшчала партрэты чыноўнікаў: старшыні Акцябрскага райвыканкама Уладзіміра Елісеева і кіраўніцы спраў Валянціны Шлапаковай. Пад фотаздымкам быў надпіс «Яны любяць цябе». Чыноўнікі тады падобны крэатыў не ацанілі і напісалі на блогера заяву ў міліцыю, маўляў, ён такой майкай іх абразіў. Але прыцягнуць да адказнасці Павука не ўдалося.

У пачатку ліпеня сам Андрэй зрабіў на вуліцы Рудабелкі апытанку на тэму, ці можна лічыць абразай майку з фотаздымкам чыноўнікаў і надпісам «Яны любяць цябе». Відэаматэрыял ён апублікаваў на сваім канале 4 ліпеня, а 8 ліпеня на гэтую ж тэму выйшаў сюжэт на Белсаце. Ён у тым ліку змяшчаў кавалак апытанкі, зроблены Павуком.

У выніку блогера прызналі вінаватым ў незаконным распаўсюдзе прадукцыі СМІ: «выканаў функцыю журналіста замежнага СМІ». Сам Андрэй сябе вінаватым не прызнае і запэўнівае, што з Белсатам не супрацоўнічае. «30 базавых велічынь за тое, чаго я не вырабляў», — абураецца ён.




# Выкапалі цела і спалілі: новыя акалічнасці забойства жанчыны ў Акцябрскім раёне

***Следчае ўпраўленне УСК па Гомельскай вобласці ўстанавіла дачыненне да забойства 34-гадовай жыхаркі Акцябрскага раёна трох жыхароў вёскі Чырвоная Слабада. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства іх затрымалі і ўзялі пад варту.***

Паводле даных следства, фігуранты крымінальнай справы распівалі спіртныя напоі на тэрыторыі дома аднаго з удзельнікаў застолля. Пасля чаго яго 20-гадовы госць, які знаходзіўся ў гаспадарчай пабудове, ударыў пацярпелую фрагментам цэглы і палкай. Ад атрыманых траўм жанчына памерла на месцы.

Затым госць папрасіў у сабутэльнікаў дапамогі, каб схаваць сляды злачынства. Яны перанеслі памерлую, яе асабістыя рэчы, у прычэп мотаблока 30-гадовага гаспадара дома, вывезлі цела ў лес і закапалі. Па дарозе назад адмылі мотаблок ад крыві, а, вярнуўшыся, знішчылі сляды злачынства.

Пасля таго, як гэтыя асобы патрапілі ў поле зроку праваахоўнікаў, асноўны фігурант і гаспадар дома вырашылі перахаваць цела. Мужчыны выкапалі яго і змясцілі ў іншую яму. Затым аблілі гаручай сумессю, падпалілі, і праз некаторы час закапалі.

Асноўнаму фігуранту крымінальнай справы прад'яўленае абвінавачванне за забойства з хуліганскіх намераў і здзек над трупам. Гаспадару дома, дзе адбылося забойства, — за ўкрывальніцтва асобы, якая ўчыніла асабліва цяжкае злачынства, зброі і слядоў здзяйснення гэтага злачынства і здзек над трупам. Трэцяму фігуранту — за ўкрывальніцтва асобы, якая ўчыніла асабліва цяжкае злачынства, зброі і слядоў здзяйснення гэтага злачынства.

*Гомельская праўда*

# У Гомлі будуюць грамадскі туалет за $ 750 тыс. Залатых унітазаў там не будзе

***Як будуць выглядаць прыбіральні на ўзбярэжжы ракі Сож, пакуль не ведаюць і самі выканаўцы праекту.***

Патрэбу збудаваць прыбіральню гомельскія ўлады тлумачылі «павелічэннем турыстычнай плыні і адначасова адсутнасцю грамадскіх прыбіральняў, што павялічвае антрапагенную нагрузку на ахоўную прыродную тэрыторыю Гомельскага палацава-паркавага ансамблю».

Будынак зробяць з маналіту, а пакуль на месцы самага дарагога санвузла ў Беларусі красуецца дзірка і стаіць плот.

Агулам Упраўленне капітальнага будаўніцтва Гомля замовіла дзве прыбіральні. Адна паўстане ля Кіеўскага спуску, другая – у раёне больніцы хуткай медычнай дапамогі.

Як распавёў belsat.eu выконваючы абавязкі галоўнага інжынера Гомельскага домабудаўнічага камбінату, працы над аб’ектам пачаліся ў чэрвені, праект толькі прайшоў экспертызу.

«Спачатку кіраўніцтва гораду паставіла нам тэрміны да 14 верасня, але гэта нерэальны тэрмін. Нарматыўны тэрмін будаўніцтва – 6 месяцаў. У нас засталося 4. Сёння завершаныя працы падрыхтоўчага перыяду адной прыбіральні. Пачынаем будаваць. На другую яшчэ няма праектнай дакументацыі», – кажа Уладзімір Лахно.

Самая дарагая прыбіральня ў Беларусі?

Туалеты ў Гомлі могуць стаць самымі дарагімі санвузламі ў найноўшай гісторыі незалежнай Беларусі. Паводле icetrade.by, самы дарагі тэндар будаўніцтва прыбіральні дагэтуль каштаваў $ 385 000, аднак яго адмянілі.

Паводле тэндару, грошы выдаткуюць з гарадскога бюджэту. Ні многа, ні мала больш за 1 млн 500 тыс рублёў ($ 750 тыс.). Пазайздросціў бы сам Януковіч.



РЭСТАЎРАЦЫЯ ПА-ЦАРСКУ.

Праект прадугледжваў пракладку вонкавых сетак каналізацыі. Уладзімір Лахно кажа, што ў працэсе будаўніцтва адмовіліся ад некаторых прац і будуць зніжаць суму.

«Цяпер дапрацоўваюцца шмат якія рашэнні праекту. Мы адмяняем актыўную гідраізаляцыю. Яна вельмі каштоўная, і мала хто ведае, як яе рабіць. У працэсе будаўніцтва будзе весціся праца па зніжэнню кошту».

Паводле інжынера, на падрыхтоўчы перыяд сышло 501 000 рублёў. За гэтыя грошы паставілі часовы будынак, зрабілі пад’язную дарогу, агарадзілі пляцоўку, умацавалі адхоны.

«У агульны каштарыс уваходзяць і выдаткі заказчыка – аўтарскі і тэхнічны нагляд», – кажа Уладзімір Лахно.

На сам будынак сыдзе больш за 1 млн. рублёў. Залатых унітазаў там дакладна не будзе, запэўнівае інжынер Аляксандр Кашкан з Інстытуту «Гомельграмадзянпраекту».

«Мы выкарыстоўваем пакрыццёвыя матэрыялы айчынных прадпрыемстваў».

**Беларуь vs свет**

Самы дарагі санвузел у свеце месціцца ў Нарвегіі на вяршыні фіёрду. Будынак мае тэрасу з відам на мора. Каштаваў праект $ 2.58 млн.

У адной з самых каштоўных лонданскіх прыбіральняў над пісуарамі ёсць гульнявыя экраны.

У Японіі пайшлі яшчэ далей. У тамтэйшых прыбіральнях ёсць сэнсары, якія вымяраюць узровень цукру ў крыві, крывяны ціск і ўтрыманне тлушчу, не патрабуючы ніякіх дадатковых дзеянняў, акрамя мочаспускання.

*Паводле belsat.eu*

- Ці Вам ня сорамна? Людзі навокал, а Вы сэлфі робіце!
- Прабачце, дужа захацелася.
- Захацелася, халера. А да прыбіральні няможна было дацярпець?

# Скандальна вядомы экс-паплечнік «Гавары праўду» сфатаграфаваўся ў мундзіры падпалкоўніка — на яго завялі справу

***У маі ў суполцы «Рэчыца. без цэнзуры» з’явілася фота мясцовага жыхара Дзяніса Сцепаненкі. На здымку ён апрануты ў вайсковую форму падпалкоўніка.***

Сцепаненка даўно ваюе з мясцовымі інфармацыйнымі суполкамі Укантакце. Яны кпяць з актывіста, а той, у сваю чаргу, піша заявы ў міліцыю і пракуратуру, каб суполкі праверылі і пакаралі.

Але, вынікае, што пасля гэтых праверак праваахоўнікаў зацікавіў і сам Сцепаненка. А дакладней яго фота ў кіцелі беларускага вайскоўца.

Пракуратура пачала падрыхтоўку адміністрацыйнай справы на актывіста, бо насіць службовую форму цывільным асобам забаронена. За гэта пагражае штраф да 20 базавых.

Але ж высветлілася, што здымак быў зроблены яшчэ ў 2004 годзе. Сцепаненка тады прымерыў форму знаёмага дзеля фота. Доказаў, што ён насіў яе, не знайшлі, і суддзя спыніў справу.

Дзяніс Сцепаненка — рэчыцкі актывіст, які балатаваўся у мясцовыя саветы пры падтрымцы «Гавары Праўду», але ж арганізацыя адхрысцілася ад свайго прыхільніка. Таксама Сцепаненка вядомы тым, што напісаў заяву на Ігара Случака за абразу беларускай мовы.

*УШ, nn.by*

# Жыхар Светлагорска спрабаваў перадаць сябру ў ізалятар наркотыкі ў піражных

***Суд Светлагорскага раёна вынес прысуд мужчыну, які спрабаваў перадаць сябру ў ізалятар часовага ўтрымання марыхуану і альфа-PVP у заварных піражных.***

5 сакавіка мінулага года ў АУС Светлагорскага райвыканкама ўвайшла жонка аднаго з арыштантаў. Маладая жанчына прынесла мужу перадачу, якая ўключала некалькі рэчаў: скрынку пратэіну, блінцы з ліверкай, салату і восем заварных піражных. Супрацоўнікі міліцыі панеслі перадачу, а праз некалькі хвілін жанчыну затрымалі: у двух крэмавых піражных выявілі два палімерныя пакеты, як пазней высветлілася, з наркотыкамі: адзін — з марыхуанай (0,36 грама), другі — з альфа-PVP (0,1236 грама ). Спалоханая жанчына адразу здагадалася, якім чынам забароненыя рэчывы патрапілі ў яе ношу, і тут жа распавяла пра ўсё праваахоўнікам.




Аказалася, з ёй звязаўся муж, які арыштаваны і ўтрымліваецца ў камеры ізалятара, і папрасіў забраць у знаёмага тое, што неабходна яму перадаць. З размовы з мужам жанчына зразумела: перадача прызначалася для кагосьці з суседзяў па камеры.

І знаёмы мужа сапраўды прыйшоў. Ён прадставіўся Дзянісам і аддаў жанчыне сумку, у якой тая знайшла пакет з дзевяццю піражнымі і скрынку пратэіну. Не падазраючы пра сакрэтныя інгрэдыенты, яна пачаставала адным піражным сваю маленькую дачку, дадала да перадачы блінцы і салату і адправілася ў ізалятар.

Падазраванага наведалі супрацоўнікі міліцыі, аднак дома не засталі. Па месцы жыхарства наркотыкі не знайшлі, затое пашпарт і іншыя дакументы знаходзіліся на месцы. Бацькі не ведалі, дзе іх сын, аднак пазней высветлілася, што Дзяніс з'ехаў у Расію.

Падазраваны вярнуўся ў Беларусь толькі ў кастрычніку мінулага года. Цікава, што на судзе ён сцвярджаў: жанчына, якая прынесла ў ізалятар гэтыя піражныя, агаварыла яго, каб пазбегнуць крымінальнай адказнасці. Суд Светлагорскага раёна прызнаў Дзяніса Каханчыка вінаватым. Яму прызначылі пакаранне ў вы-

# НАЛІСНІКІ

1) МАЛАКО 2,5 – 3 шклянкі

3 ЯЙКІ

СОЛЬ

ЦУКАР 0,5 ст. л.

МУКА 1,5 шклянкі

РАЗВЕСЦІ ПРАДУКТЫ У АДНОЙ ШКЛЯНЦЫ МАЛАКА, ЗАТЫМ ДАДАЦЬ ЯГО РЭШТУ

2) СПЯЧЫ ТОНКІЯ БЛІНЫ

3) ТВАРОГ (400г) ПРАЦЕРЦІ, ЗМЯШАЦЬ З ЦУКРАМ І СМЯТАНАЙ

4) НАМАЗАЦЬ БЛІНЫ НАЧЫНКАЙ, СКРУЦІЦЬ, ЗМЯСЦІЦЬ ІХ У ФОРМУ І ПЕРАКЛАСЦІ КАВАЛАЧКАМІ МАСЛА, ЗАПЯЧЫ

20 хвілін 100°С

ПАДАЦЬ ГАРАЧЫМІ

ПРОСТАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЕЖА

МАЛЯВАЛА КСЕНІЯ КАЧАВАНАВА

УСЕ СУВЕНІРЫ НА ARTSOUVENIRS.BY

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі жнівень 2018»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Ірына Прушынская
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69а
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2018"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** hodnyhomel

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA